


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

14 сакавіка 2003 года

№ 11 (412)
Выходзіць па пятніцах

ПІНЮС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Не працавалі

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду не выйшлі на працу гарадскія прадпрымальнікі.

На калгасным і рэчавых рынках амаль не было прадаўцоў, якія гандлююць прамысловымі таварамі. Шмат у горадзе было закрыта камерцыйных кіёскаў. Прадпрымальнікаў не задавальняюць памеры падаткаў, якія вымушаныя плаціць згодна з прэзідэнцкім дэкрэтам №4.

**Ірына РАБУШКА.**

### Перавыбары

**АСТРАВЕЦ.** Адбыліся выбары старшыняў у калгасах "Рассвет" і імя Мічурына.

Нягледзячы на дрэннае фінансавае становішча гаспадарак, старшыні **Іван Штуро** і **Станіслаў Вайдак** будуць кіраваць калгасамі і далей.

**Іван КРУК.**

### Вагон падарункаў

**ВАЛОЖЫН** Дзіцячы сад №5 адсвяткаваў сваё 20-годдзе. На свяце сад атрымаў пральную машыну, відэамагнітафон і набор відэакасет, 31 экзатычную расліну, 20 мячоў для развіцця рук і ног, 7 ачышчальнікаў вады.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Палякі ў глыбінцы

**МЯДЗЕЛ.** Другі раз за паўтара года ў раён прыязджалі студэнты Варшаўскага універсітэта.

Было іх гэтым разам 16, жылі яны па людзях у вёсках Старлыгі і Міцінеты. Хадзілі па хатах гэтых і суседніх вёсак, распытвалі старэйшых жыхароў пра замовы, чараўніцтва і тое, як раней жылося.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Наваселле музея

**АШМЯНЫ.** На 49-м годдзе існавання мясцоваму краязнаўчаму музею далі ўласны будынак у цэнтры горада.

Раней музей месціўся на тэрыторыі школы-інтэрната. Навасёлам трэба зрабіць рамонт цяперашняга будынка. Для гэтага ў райцэнтры праводзяць акцыю па зборы сродкаў.

**Ірына РАБУШКА.**

### Першае «серабро»

**ВІЛЕЙКА.** На Алімпійскіх днях моладзі па баскетболу сярод юнакоў 1986-87 гадоў нараджэння зборная Мінскай вобласці ўпершыню заняла другое месца.

Напярэдадзе былі толькі мінчане. Амаль палову абласной каманды складалі баскетбалісты з нашага рэгіёну: **Аляксандр Садоўскі, Аляксей Хмарэнка, Антон Цвячкоўскі** з Вілейкі і **Дзмітрый Сікорскі** з Валожына. Рыхтавалі спартсменаў трэнеры **Алег Хвядчэня, Валерый Купцэвіч, Іосіф Іваноўскі.**

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

# Эліксір жыцця з Усходу

## У Чысці вырасцілі экзатычны грыб шытаке

**МАЛАДЗЕЧНА. У лабараторыі грыбнога цэха завода будаўнічых канструкцый, што ў Чысці, вырасцілі для продажу грыб шытаке.**

Гэты грыб вядомы ва ўсім свеце як лекавы сродак. Радзіма грыба – Японія і Кітай. Прадстаўнікі ўсходняй цывілізацыі карысталіся лекавымі якасцямі шытаке яшчэ да нашай эры. Там грыб называлі эліксірам жыцця, бо ён уваходзіў у склад большасці лекаў усходняй медыцыны.

Загадчык грыбнога цэха завода будаўнічых канструкцый **Міхаіл Салаўёў**, які справе вырошчвання карысных грыбоў аддаў тры з паловай дзесяткі гадоў, сказаў, што айчынных канкурэнтаў заводу ў вытворчасці грыба не будзе, бо яго ў Беларусі больш ніхто не вырошчвае. Падобныя грыбы папулярныя ў вельмі дарагіх рэстаранах, асабліва японскай кухні. Маскоўскія рэстараны заказваюць гэтыя грыбы непасрэдна з Японіі, бо на прамысловым узроўні шытаке не выпускаюць і ў Расіі.

Грыбны цэх на заводзе будаўнічых канструкцый з'явіўся некалькі гадоў таму. Галоўным ініцыятарам стварэння такога цэха на прадпрыемстве называюць яго дырэктара **Мікалая Шэлега.** Хаця спачатку назіральнаму савету ААТ "Забудова", часткай якога з'яўляецца завод, было дзіўна, як могуць быць побач вытворчасць бетону і грыбоў. Але практыка паказала, што гэта магчыма. Спачатку сталі вырошчваць грыбы вешанкі, якія служаць прафілактыкай анкалагічных захворванняў. Той эксперымент ужо прыносіць эканамічную аддачу. Цэх штомесяц цяпер выпускае каля 4-х тон гэтых экалагічна чыстых грыбоў, якія не залежваюцца на прадпрыемстве. Іх купляюць у Маладзечне, Мінску. М. Шэлег зазначыў, што бяруць з ахвотай і мясцовыя. За гэты час пад кіраўніцтвам гомельскіх вучоных кандыдата біялагічных навук Валянціны Фаміной і кандыдата сельскагаспадарчых навук Вячаслава Трухановіча чысцінцы асвоілі замкнуты цыкл вытворчасці. Цяпер адпала неабходнасць купляць насенне гэтага грыба.


Загадчыца лабараторыі грыбнога цэха завода будаўнічых канструкцый Гражына Квяткоўская вырасціла лекавыя грыбы шытаке і ўмацоўвае сваё здароўе настойкай з гэтых грыбоў. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Пасля ўдалага эксперыменту задумалі яшчэ адзін – вырасціць шытаке. Ён карысны пры сардэчных захворваннях. Ужыванне грыбоў зніжае ўзровень халестэрыну ў крыві.

У публікацыі расійскіх вучоных сказана, што гэты грыб таксама выкарыстоўваецца як сродак пазбаўлення ад лішняй вагі. Гэта даказаў досвед 30 чалавек-дабраахвотнікаў, якія ўжывалі шытаке на працягу 2-х месяцаў і не абмяжоўвалі сябе ў ежы ні ў чым. Кожны страціў вагу ад 3 да 11 кілаграмаў.

Яшчэ шытаке на сённяшні дзень з'яўляецца адным з найбольш эфектыўных сродкаў барацьбы супраць ракавых пухлін і хваробаў скуры. За мяжой на аснове шытаке стварылі лекавыя прэпараты супраць раку.

На заводзе падлічылі і вырашылі паспрабаваць. Але гэтая справа дарагая і пад сілу вялікаму прадпрыемству. Міхаіл Салаўёў ведае аб гэтым на сваім досведзе.

– Гэтая вытворчасць нясе вялікія затраты, якія не пад сілу прыватнаму бізнесу.

Загадчык цэха спрабаваў самастойна вырошчваць гэтыя грыбы, але няўдала. Прыкладна на тысячу долараў у месяц каштавала для яго арэнда памяшкання на 400 квадратных метраў і ўтрымання належных умоў для вырошчвання лекавых грыбоў. Міхаіл Салаўёў родам з Мінска і прыехаў у Чысць, каб займацца гэтай справай прафесійна. Як сам жартуе, пераманіў спецыяліста-мікрабіёлага, якая працавала раней на Маладзечанскіх электрасетках, а цяпер стала загадчыцай лабараторыі **Гражыну Квяткоўскую.** І яны разам з некалькімі рабочымі і пад наглядам вучоных Фаміной і Трухановіча вырасцілі некалькі кілаграмаў шытаке.


Так выглядаюць лекавыя грыбы шытаке. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

У гэтыя месяцы ў грыбным цэху ідзе будоўля. Амаль поўнасцю абуладкаваная толькі лабараторыя. Памяшканні, якія будзе займаць цэх, будаўнікі яшчэ рыхтуюць: тынкуюць, кладуць плітку, праводзяць асвятленне. Адначасова ідзе абкатка абсталявання. Будоўлю плануюць завяршыць у наступным месяцы. Набяруць яшчэ некалькі рабочых, і грыбы паставяць "на паток". А ў думках наступны эксперымент – шампіньёны...

Дырэктар завода атрымаў на свой стол пробную партыю шытаке. Зрабіў настойку на гэтых грыбах і ўжывае штодзень. У месяц плануюць выпускаць каля тоны шытаке. Але даступнымі гэтыя грыбы не назавеш: калі вешанкі каштуюць каля 3-3,5 тысячы рублёў за кілаграм, то шытаке абыдуцца пакупнікам на парадак даражэй. Мікалай Шэлег сказаў, што за кілаграм шытаке прыйдзецца аддаць, па папярэдніх дадзеных, каля 40 тысяч рублёў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Закрываюць могілкі

Летам закрываюцца Маладзечанскія гарадскія могілкі ля вёскі Лазавец. Камісія разглядае некалькі варыянтаў размяшчэння новых могілак.

2-я старонка

### Цыгарэты замест вады

Работнікі мытні дакладна ведаюць, што не трэба верыць усяму, што напісана на паперах. Бывае, што ў дакументах напісана: у кантэйнеры перавозяць мінеральную ваду, а там – цыгарэты.

3-я старонка

### 16 дзяцей на адной пляцоўцы

На адной лесвічнай пляцоўцы ў Смаргоні жывуць дзве сям'і, якія нарадзілі і гадуюць разам 16 дзяцей. У кватэрах Савіцкіх і Родзіных шумна, але весела.

5-я старонка

■ ВЫСТАЎКА

# Бачыць прыгажосць

**МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтры мастацкай творчасці навучэнцаў праходзіць выстаўка малюнкаў "Браты нашы меншыя".**

У ёй удзельнічаюць дзеці, што вучацца ў студыі выяўленчага мастацтва пры цэнтры. Кіруе студыяй **Святлана Міцкевіч**. Юныя мастакі ад 6 да 15 гадоў прапанавалі 50 сваіх работ. На напісанне малюнкаў дзяцей натхніла выстаўка жывёл Беларусі, якую засёды можна ўбачыць у мясцовым краязнаўчым музеі. А таксама ўспаміны аб прыродзе, куды дзеці выязджалі раней.

Дзяўчынак-мастачак больш, чым хлопчыкаў. Яны часцей малююць у цёплых колерах: жоўтым, чырвоным, аранжавым, светла-зялёным. Хлопчыкі – халоднымі: сінім, фіялетавым, блакітным, белым, шэрым. Працуюць дзеці над творамі да двух тыдняў. А бывае, і гадзіну. Такое здараецца часцей з 6-7-гадовымі. Як гаворыцца, на адным дыханні.

Добра, каб старэйшыя дзеці бачылі перад сабой тое, што малююць. Калі рыхтаваліся да гэтай выстаўкі, выхаванка студыі **Таня Шкет** з дому свайго ката Пушка прынесла. Потым малявалі яго ў руху. Для маленькіх выхаванцаў кіраўнік студыі засёды расказвае легенды і казкі. Тады ім лягчэй маляваць. Напрыклад, жыў у старажытнай Грэцыі мастак. Аднойчы ён намаляваў вінаградную гронку. Потым пакінуў малюнак на падаконніку, каб прасох. Калі вярнуўся, на гронцы сядзелі птушкі і клявалі вінаград. Яны паверылі ў тое, што ён сапраўдны. Так і вучыць Святлана Міцкевіч сваіх выхаванцаў маляваць па-сапраўднаму, па-жывому і бачыць прыгажосць.

**Кіраўнік студыі выяўленчага мастацтва Маладзечанскага цэнтра мастацкай творчасці навучэнцаў Святлана Міцкевіч расказвае гледачам пра тое, як ствараліся выстаўка "Браты нашы меншыя".** Фота Ірыны РАБУШКІ.

Ірына РАБУШКА.

■ ВЫСТАЎКА

## Тут так смешна!

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у цэнтральнай гарадской бібліятэцы адкрылася выстаўка карыкатур Паўла Шычко.**

Ён прапанаваў гледачам больш за 70 карыкатур. Яны прымушаюць не толькі смяяцца, але і думаць. Уявіце: на паперы намаляваны бацька, які робіць рамонт у кватэры. Побач з ім стаіць маці з малым сынам. Яна кажа:

— Вось вырасцеш, зможаш тату дапамагчы.

А сын адказвае:

— А што, ён да таго часу не закончыць?

І пра транспарт наш у карыкатурыста ёсць. Едуць людзі ў бітком набітым аўтобусе:

— Асцярожна, мужчына! У мяне ў пакеце – яйкі.

— А ў мяне – цвікі, і я маўчаў.

Намаляваная магіла з помнікам. На ім напісана: "Ён кінуў піць, таму што спіць". Пра нашыя грошы П.Шычко сказаў так. Мужык вывярочвае пустыя кішэні і гаворыць:

— Я ўчора во-ось такую зарплату атрымаў!..

Павел Шычко займаецца карыкатурай з 1995 года. Цяпер вучыцца на 4 курсе Беларускай акадэміі мастацтваў. Падчас яго выстаўкі нават дарослыя ператвараліся ў дзяцей. Смяяліся на ўвесь голас. І звалі адзін аднаго: "Скарэй сюды! Тут так смешна!".

Ірына РАБУШКА.

РАБЛЮ жанчыну шчаслівай

**Карыкатура з выстаўкі Паўла Шычко.** Фота Ірыны Рабушкі.



■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Фантазія

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулым нумары мы пісалі, што 3 сакавіка ў СШ №7 тэхнічная работніца пабіла 15-гадовую вучаніцу гэтай школы.**

Гэтыя звесткі мы атрымалі з міліцэйскай хронікі. У рэдакцыю «РГ» патэлефанавала намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце **Вольга Пыск**. Яна сказала, што такога ў іх школе не было. Начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага ГРАУС **Барыс Сіняўскі** расказаў аб выніках праверкі па гэтым факце. Хутчэй за ўсё, гэта падлеткавыя фантазіі. «Пацярпеламу боку» зрабілі судова-медыцынскую экспертызу, якая не пацвердзіла факт пабою. Учора, калі гэты нумар друкаваўся, павінны былі прыняць канчатковае рашэнне па гэтай справе.

Ірына РАБУШКА.

## Пуня ў агні

**АШМЯНЫ. У аўторак у вёсцы Габрыялаўшчына Кальчунскага сельсавета згарэла пуня.**

Агнём знішчана 500 кілаграмаў сена. Пажар узнік каля 10 гадзін вечара. Тушылі яго пайтары гадзіны. Прычына ўстанаўліваецца.

## Злодзея злавілі

**МАЛАДЗЕЧНА. У адной з кватэр на вул.Лібава-Роменскай, 83, выкралі факс.**

Следча-аператыўная група злодзея затрымала. Узбуджана крымінальная справа.

Ірына РАБУШКА.

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Закрываюць гарадскія могілкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Летам закрыюць для пахавання могілкі ў Лазаўцы.**

Яны амаль вычарпалі свой рэсурс: за 13 гадоў аказалася занятая плошча ў 10,5 гектара. Хутка ўзнікне неабходнасць уладкавання новых гарадскіх могілак.

У лютым побач са старымі могілкамі высеклі яшчэ 3,5 гектара лесу. Гэтай плошчы хопіць на 3-4 гады. І нягледзячы на тое, што гораду належыць тут яшчэ 10 гектараў зямлі, верагодна, што хаваць людзей будуць у іншым месцы.

Для гэтага ёсць дзве прычыны: глеба ля Лазаўца вельмі цяжкая, мясцовасць месцамі нават забалочаная. І вельмі дорага каштуе расчыстка плошчы. Як сказаў загадчык вытворчага аддзела ВА "Камунальнік" **Мікалай Чалей**, на тое, каб высечы лес, затрацілі каля 50 мільёнаў рублёў. Каб добраўпарадкаваць плошчу, спатрэбіцца, па папярэдніх падліках, яшчэ каля 150 мільёнаў. М. Чалей зазначыў, што глеба на новых могілках будзе сухая. Гэта даказалі яе даследаванні.

Цяпер гарвыканкам і райвыканкам шукаюць варыянты ўладкавання новых гарадскіх могілак. Як расказала начальнік аддзела землеўпарадкавання гарадскога ўпраўлення архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання **Ала Мядзведзева**, распрацавана 5 варыянтаў. У кожнага ёсць свае плюсы і мінусы. Самы лепшы, на погляд распрацоўшчыкаў, варыянт размяшчэння могілак — ля развілкі дарогі Мінск-Маладзечна — адхіліў НДІ горадабудаўніцтва, што ў Мінску. Менавіта ён павінен даць згоду на распрацоўку тэрыторыі. І плошча пад могілкі ля аўтадарогі дастаткова вялікая – 70 гектараў, і дабірацца туды нескладана, але гэтыя могілкі знаходзяцца ў зоне перспектыўнай забудовы горада, што і стала прычынай адхілення гэтага варыянта інстытутам. Цяжка будзе "прабіць" і варыянт адразу за шостым мікраёнам, бо і тая тэрыторыя адведзеная пад пашырэнне гарадской рысы.

Варыянт расшырэння існуючых вясковых могілак у Хажове малаэрэальны, бо частка мяркуемай плошчы падпадае ў ахоўную зону водазабору "Гелянова", і яе нельга эксплуатаваць. Яшчэ распрацоўваецца варыянт уладкавання могілак ля вёскі Драні. Там добрая зямля, але гэта яшчэ далей ад горада, чым Лазавец, – каля 9 кіламетраў. Да таго ж неабходна пабудаваць каля 4-х кіламетраў аўтадарогі. І апошні варыянт – прадаўжаць расчышчаць плошчу ля Лазаўца.

Цяпер гэтыя варыянты разгледзіць НДІ. Калі ён зацвердзіць нейкі з прапанаваных або іншы, тады гарвыканкам распрацуе праект будаўніцтва новых могілак. Пасля гарадскія камунальныя службы пачнуць працу па добраўпарадкаванні тэрыторыі. Але калі гэта будзе, сказаць гарадскія чыноўнікі пакуль не могуць.

**На карце кружочкамі паказаны верагодныя месцы новых гарадскіх могілак.** Архіў "РГ".

Юрый КАРПІЦКІ.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Пажар у вёсцы

**АШМЯНЫ. 9 сакавіка ў вёсцы Гальшаны згарэў жылы дом.**

У агні загінулі 28-гадовы гаспадар і яго 3- гадовы сын. Жонка закрыла іх у хаце і пайшла па справах. Бацька быў п'яны. Мяркуецца, што прычынай пажару стала кароткае замыканне электраправодкі. Дом падключаны да электраэнергіі самавольна.

Ірына РАБУШКА.

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Цыгарэты замест вады

**МАЛАДЗЕЧНА. Летась на 80% правапарушэнняў больш, чым у 2001 годзе, выявілі мытнікі Маладзечанскага мытнага паста (ММП).**

Намеснік начальніка ММП **Уладзімір Кезік** адной з прычын гэтаму лічыць паляпшэнне работы супрацоўнікаў. Часта правапарушэнні ўчынялі па неасцярожнасці. У 38-мі выпадках парушальнікі забываліся падаваць мытную дэкларацыю. За што атрымалі штраф ад 5 да 10 мінімальных заработных плат. У 30-ці выпадках выявілі парушэнні тэрмінаў дастаўкі тавару ў мытню. За гэта штраф 5-30 мінімалак. Усяго летась супрацоўнікі ММП выявілі 139 правапарушэнняў. Разам з гэтым мытнікі забяспечылі паступленне ў рэспубліканскі бюджэт звыш 8,2 мільярда рублёў.

Свае прафесійныя сакрэты яны не раскрываюць. Гавораць, службовая тайна. На ММП працуе 48 чалавек. Маладзечанскі пост з'яўляецца структурным падраздзяленнем Мінскай рэгіянальнай мытні. У склад паста ўваходзяць 3 пункты мытнага афармлення: "Маладзечна", "Белтранспрагрэс" і "Чысць".

"Маладзечна" – адзін з самых буйных пунктаў на тэрыторыі Беларусі. Тут усе перавозкі ажыццяўляюцца чыгуначным транспартам. Менавіта на гэтым пункце затрымалі 2 кантэйнеры з цыгарэтамі маркі "LM". Іх везлі па маршруту Уладзікаўказ-Калінінград. У дакументах яны значыліся як мінеральная вада. На самой справе мінералкі было толькі некалькі радоў. Сума адабранага тавару склала больш за 500 мільёнаў рублёў. Цыгарэты аддалі ў мясцовы дзяржаўны гандаль і не распрадалі да гэтай пары.



**Старшы інспектар Маладзечанскага мытнага паста Віталь Бялько пералічвае тавар, што вязуць з Германіі ў Чысць.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

Увогуле праз пункт "Маладзечна" ўвозяць і вывозяць вугаль, нафту, вырабы з каляровых металаў, а таксама мяса, садавіну, кансервы. Усё гэта патрэбнае Беларусі, Украіне, Расіі. Найбольш цесныя адносіны па абмену таварамі ў беларусаў з Калінінградам.

Мытнікі далі больш за 20 тысяч дазволаў на ўвоз тавараў у Беларусь і 72 тысячы дазволаў на вываз з нашай дзяржавы.

Праз пункт "Белтранспрагрэс" "праходзяць" тавары, якія вязуць на Вілейшчыну, Маладзечаншчыну, Валожыншчыну. Напрыклад, гуманітарная дапамога для школы-інтэрната ці Пяршайскай бальніцы, што на Валожыншчыне. А таксама сыравіну для перапрацоўкі на вілейскія "Зеніт" і ААТ "Буддэталі", маладзечанскія швейную фабрыку "Юнона" і завод металічных канструкцый.

Да ўсіх тавараў, што перавозяць, прыкладаюцца дакументы, за правільным афармленнем якіх і сочаць маладзечанскія мытнікі. Вязуць гэтыя тавары ў раёны нашага рэгіёну з Нідэрландаў, Польшчы, Літвы, Латвіі, Германіі.

Гатовую прадукцыю ад нас, а дакладней, з "Забудовы", вывозяць праз мытны пункт "Чысць". А з Літвы, наадварот, вязуць матэрыялы для вытворчасці. Гэта фарбавальнікі, лакі, усялякія хімічныя сродкі. Нярэдка ў дакументах, што суправаджаюць такія тавары, указана адна колькасць, якая на самой справе зусім іншая. Тады мытнікі праводзяць агляды, кантрольныя аперацыі накшталт узважвання ці пераліку. Правяраюць законнасць паставак. Як гаворыць Уладзімір Кезік, законнасць паставак ніколі не парушалі.

Ірына РАБУШКА.

## Курсы валют НБ РБ

| | 6.03 руб. | 13.03 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1978,00 | 1983,00 |
| Еўра | 2169,47 | 2185,76 |
| Злоты | 503,10 | 515,00 |
| Літ | 628,29 | 632,94 |
| Расійскі рубель | 62,61 | 63,07 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1940/1965 | 1970/1990 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 5.03 | 12.03 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11700 | 10980 |
| Сасіскі, 1 кг | 3750 | 3530 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1350 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1045 | 1100 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1100 | 1100 |
| Алей, 1 л | 1700 | 1700 |
| Маянэз, 200 г | 400 | 430 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 750 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 630 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 850 | 860 |
| Капуста, 1 кг | 750 | 800 |
| Морква, 1 кг | 800 | 900 |
| Лімоны, 1 кг | 2350 | 2300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1750 | 1650 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 650 | 600 |
| Смятана, 1 л | 1800 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | 1600 |
| Бульба, 1 вядро | 3800 | 3800 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1100 |

■ 15 САКАВІКА – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ПРАВОЎ СПАЖЫЎЦОЎ

# Як абараніць свае правы

**ВІЛЕЙКА. На рынку ў Зенітаўскім мікрараёне ў камерцыйных кіёсках толькі трое вагаў з адзінаццаці поўнасцю адкрытыя для пакупніка.**

У астатніх спажывец не мае добрай магчымасці бачыць узважваемы тавар альбо яго вагу. Калі мы робім пакупкі, то рызыкуем быць падманутымі, абважанымі, аблічанымі.

15 сакавіка праводзіцца Сусветны дзень абароны правоў спажыўцоў. Да яго святкавання Беларусь далучылася летась, а неўзабаве, 25 ліпеня 2002 года, уступіў у сілу новы Закон Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў".

У гісторыі Беларусі гэта не першы закон, скіраваны на абарону правоў спажыўцоў. Яшчэ Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г., які дзейнічаў на нашай тэрыторыі 250 гадоў, утрымліваў нормы, якія баранілі правы жыхароў ВКЛ на рынку тавараў, паслуг і прадуктаў.

Між тым, паміж дэклараванымі правамі і іх захаваннем у рэальным жыцці ёсць сур'ёзная неадпаведнасць. А як можа быць інакш, калі абсалютная большасць беларусаў нават свае спажывецкія правы ўяўляе вельмі цьмяна?

Сярод асноўных правоў спажыўцоў – права на інфармацыю аб таварах і паслугах, а таксама аб іх вытворцах, права на бяспечнасць тавараў, на свабодны выбар і належную якасць тавараў, пакрыццё ў поўным аб'ёме страты і шкоды, нанесенай з прычыны няякаснага тавару.

У абсалютнай большасці выпадкаў парушэння спажывецкіх правоў спажыўцы абмяжоўваюцца вуснымі выказваннямі незадаволенасці. Мала хто робіць запіс у "Кнігу скаргаў і прапаноў". А звяртацца ў суд справа занадта турботная.

Дапамогай у абароне спажывецкіх правоў займаецца грамадская арганізацыя "Беларускае таварыства абароны спажыўцоў". Кожны гандлёвы пункт павінен мець інфармацыю, куды звярнуцца за абаронай сваіх спажывецкіх правоў.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

# Дарагія пасведчанні

**МАЛАДЗЕЧНА. З 17 лютага Маладзечанскі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі (РЦГІЭ) атрымаў права на правядзенне даследаванняў і выдачу гігіенічных пасведчанняў.**

За няпоўны месяц 99 маладзечанскіх прадпрымальнікаў атрымалі там пасведчанні аб гігіенічнай рэгістрацыі сваіх тавараў.

Гэтыя дакументы сведчаць аб тым, што тавар бяспечны ў карыстанні. Да гэтага года гігіенічныя пасведчанні найбліжэй адсюль можна было зрабіць у Мінску. Але прадпрымальнікі не спяшаюцца з імі. Не пужае пагроза штрафу ад 5 да 20 базавых велічынь (67,5 – 270 тысяч рублёў). З пачатку года фінансава пацярпелі 11 прадпрымальнікаў.

Чаму няма чаргі ў аддзел дзяржаўнай гігіенічнай рэгістрацыі? Загадчыца аддзела **Кацярына Філіповіч** тлумачыць гэта вялікімі затратамі з боку прадпрымальнікаў. Адно даследаванне ў сярэднім каштуе 40-60 тысяч рублёў.

Прадпрымальнікам звычайна трэба заплаціць за некалькі, бо пасведчанне трэба мець на кожную групу тавараў, якая належыць гігіенічнай рэгістрацыі. Да таго ж бізнесмены павінныя ўнесці падатак у 2 базавыя велічыні (27 тысяч рублёў) за кожнае пасведчанне, якое выдаецца, звычайна, на паўгода.

Каб паменшыць выдаткі, прадпрымальнікам, якія гандлююць аналагічнымі таварамі, прапануюць праходзіць рэгістрацыю ўпяцёх.

Адпаведна выдаткі за даследаванні дзеляцца на ўсю групу.

Юрый КАРПІЦКІ.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ ВІЛЯЙЧАНАЎ

# Што ведаеце пра Дзень абароны правоў спажыўцоў?



**Аксана Альфер, у адпачынку па догляду дзіцяці:**

– Чула, але не ведаю, калі гэты дзень праводзіцца. Магчыма, правы парушаліся, але не заўважала. Я чалавек без прэтэнзіяў – 5 грамаў туды, 5 грамаў сюды...



**Ала Роўда, супрацоўнік ДРАЦ "Надзея":**

– Не ведаю пра гэткі дзень. Магу сказаць, што ў кіёсках вагі кепска відаць. Здараецца, абважваюць. Магу нават паказаць, у якім кіёску.



**Альфрэд Роўда, работнік завода "Зеніт":**

– У мяне кожны дзень абарона. Здараецца, што мне прадаюць пратэрмінаваны тавар. Сустракаюцца і грубыя прадаўцы.



**Міхаіл Супрановіч, навучэнец ПТВ-124:**

— Пра гэткі дзень не ведаю, але мае правы як спажыўца парушаюцца. Бывае, рэшту няправільна дадуць.

Падрыхтаваў Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

# 16 дзяцей на адной пляцоўцы

**СМАРГОНЬ. На адной лесвічнай пляцоўцы ў шматпавярхоўцы па вуліцы Юбілейнай жывуць 2 сям'і, якія нарадзілі і выхоўваць 16 дзяцей.**

Гэта 10 дзяцей **Людмілы і Віктара Савіцкіх** і шасцёра – **Любові і Вячаслава Родзіных**. Суседзі разам ідуць па жыцці і пераконваюцца ў тым, што гаворыць цяпер большасць маладых: “Два дзіцяці больш, чым дастаткова”. Не хапае цяпер грошай, каб паставіць на ногі 10 дзяцей. Цяпер, магчыма, Родзіны і Савіцкія не сталі б нараджаць так многа.

Яны не адчуваюць вялікіх эканамічных ільгот за тое, што прыстойна выхоўваюць дзяцей. Малодшыя шмат разоў пабывалі ў Італіі і расказвалі, што дзяржава там дапамагае шматдзетным сем'ям, імкнецца, каб нараджэнне дзіцяці не стала вялізным ударам па бацькоўскім кашальку.

А ў роднай Смаргоні Родзіным і Савіцкім давялося сустрэцца ў свае часы і з холадам у кабінетах чыноўнікаў: “Нараджалі...Цяпер няма чаго парогі абіваць”. Таму выкручваюцца, як могуць, а за дапамогай стараюцца не хадзіць: Савіцкія працуюць на ўласнай гаспадарцы, а Вячаслаў Родзін вымушаны ездзіць на заробкі.

Сумна жартуюць: трэба сваіх непаўналетніх дзяцей ў прытулак здаць, а потым іх самім узяць на выхаванне. Любоў Родзіна сказала, што на выхаванне аднаго непаўналетняга дзіцяці яна атрымлівае каля 24 тысяч рублёў штомесяц. А на ўтрыманне ўзятага з прытулку дзіцяці дзяржава выдзяляе каля 70 тысяч рублёў за такі ж перыяд, а маці ідзе працоўны стаж.

Аднак аб часах росту сваіх сем'яў яны ўспамінаюць з асобым хваляваннем і, відаць па ўсім, не шкадуюць аб сваім рашэнні.



Адзін з 10 дзяцей Людмілы і Віктара Савіцкіх Аляксандр з сынам Ігарам.

## Школьны баль

Люда і Віця пазнаёміліся на восеньскім бале ў Сольскай школе. Аказалася, на ўсё жыццё. Люда тады вучылася ў 8-м класе, Віця – у дзявятым. Пасля школы Віця пайшоў у армію, а Люда вывучылася на прадаўца і чакала Віктара. Як вярнуўся, было пышнае вяселле на тры дні.

Людміла ўспамінае, што муж з самага пачатку хацеў мець вялікую сям'ю. Яшчэ да вяселля, калі прыходзіў да Людмілы ў госці, вельмі падабалася ўтульная атмасфера шматдзетай сям'і: у Люды яшчэ 5 братоў і сясцёр. А ў Віктара ёсць яшчэ сястра, на 5 гадоў старэйшая: розныя сябры, інтарэсы...

Віктар уладкаваўся на работу на завод аптычнага станкабудавання. Мянялася абсталяванне, мяняліся спецыяльнасці, але работа заўсёды была звязаная з металаапрацоўкай.

## Тры баравічкі

У 1977 годзе нарадзіўся першынец – **Валера**. Шчаслівы бацька абляцеў, як на крылах, родную вёску Васюкі з крыкам: “У мяне сын нарадзіўся!”

– У нашай сям'і не прынята даваць мянушкі, але Валеру часта называлі “бальшавік”, таму што самы старэйшы. Самы пяшчотны з усіх. Атрымаў усе катэгорыі вадзіцеля. Ажаніўся, унуку **Артуру** цяпер 2 гады, – з гонарам гаворыць Людміла.

За першым у інтэрвале праз год нарадзіліся яшчэ двое – **Віця і Саша**. Па характарыстыцы маці, Віця быў найбольш капрызны. Хадзілі браты заўсёды ўтраіх. Іх называлі “тры баравічкі”. Але, калі здараліся спрэчкі ў двары ці школе, уступаўся за іншых Віця, хоць ён і не старэйшы. І цяпер Віктар карыстаецца поспехам у малодшых сясцёр. Асабліва, калі атрымае зарплату. Так і круцяцца каля яго. І ў Віктара ёсць сям'я: жонка і сын.

Трэці – Саша – з маленства быў дарослым і сур'ёзным. І яшчэ сціплым. У яго пайшоў і сын **Ігар**. Гісторыя паўтарылася: “тры баравічкі” нарадзілі таксама траіх сыноў.

## Сярэднія

Ёсць у Людмілы і Віктара Савіцкіх і чацвёрты ўнук – 20 гадовая дачка **Люда** летась закончыла Маладзечанскае медыцынскае вучылішча, выйшла замуж і нарадзіла сына. Цяпер жыве ў Солах.

**Юля**, якая на год старэйшая, выклікала асаблівую радасць бацькі, бо ён даўно хацеў дзяўчынку. Умее вязаць, шыць, ведае гаспадарку. Хоць добра закончыла школу, але ў ВНУ не паступала. Закончыла мясцовае вучылішча на прадаўца. Цяпер даглядае бацькавага бацьку ў Васюках. Дзядуля не нахваліцца ўнучкай, якая вядзе ўсю гаспадарку.

**Вольга**, якая шостая ў сям'і Савіцкіх, вельмі падобная па характару на Люду. І вучыцца цяпер там, у медыцынскім вучылішчы. Маці гаворыць: адна раней прыязджала дадому, усё зубрыла сваю латынь, цяпер другая па начах па латыні гаворыць.

Міша летась закончыў школу, але не паступіў далей. Цяпер дапамагае па гаспадарцы і вызначаецца з месцам работы. Можна пайсці вучнем на той жа завод аптычнага станкабудавання. З гэтым прадпрыемствам цесна звязаны Савіцкія. Бацька аддаў яму палову жыцця, старэйшыя дзеці там працавалі. Завод даў Савіцкім кватэру: спачатку 4-пакаёвую, затым пераехалі ў 5-пакаёвую (аб'ядналі разам 2-х і 3-пакаёвыя кватэры).

На сярэдніх вельмі адчуваецца недахоп грошай – моладзь вельмі цяжка вывучыць. Калі ў савецкія часы Віктар Піліпавіч атрымліваў 500-600 рублёў у месяц, і Людміла магла не працаваць, то цяпер толькі камунальныя паслугі цягнуць на 120-140 тысяч у месяц, якія амаль цалкам “з'ядаюць” зарплату мужа.

## Малодшыя

**Аня, Валя і Вера** вучацца ў школе. У Ані сёлета выпускны, а гэта значыць, – чарговы галаўны боль для сям'і. Плануе паступіць у педуніверсітэт. 15-гадовая Валянціна і 13-гадовая Вера з'яўляюцца школьнымі актывісткамі: спяваюць і танцуюць на ўсіх святах.

Малодшых дзяцей летам запрашаюць італьянскія сем'і на месячны адпачынак. Як бы там ні было добра, але іх праз пару тыдняў цягне дадому. Валя і Вера паспелі добра вывучыць італьянскую мову.

## Родзіны

Любоў і Вячаслаў Родзіны пазнаёміліся ў Томску. Люба вучылася там у політэхнічным інстытуце на дзённым аддзяленні, Слава — там жа, на вячэрнім.

Пазнаёміліся на бульбе. Хаця адразу Слава Людміле не спадабаўся. А як у горадзе ўбачыла прыгожага пастрыжанага і паголенага хлопца, то закахалася з першага погляду. І не магла паверыць, што гэта той хлопец з бульбы.

Цікава, што Вячаслаў дзяцей ўвогуле не хацеў мець. А любіў вазіцца з металаломам, які называў “электронным абсталяваннем”. І стаў па электратэхніцы добрым спецыялістам. Сям'я часта пераязджала.

– Можна было нешта не ўзяць, але жалязякі заўсёды былі ў чамадане – успамінае Любоў Мікалаеўна.

Пажаніліся ў 1974 годзе пасля таго, як Люда закончыла першы курс. Праз год нарадзілася **Наталля**. Расла самастойнай дзяўчынай. На сваіх руках выгадавала астатніх. Выйшла замуж, але сямейнае жыццё не склалася. Сёлета пойдзе ў школу яе сын **Міша**.

У 80-х гадах Родзіны прыехалі ў Беларусь. Мужа запрасіў на работу Смаргонскі завод аптычнага станкабудавання. Прынялі запрашэнне з задавальненнем, у Беларусі жывуць сваякі і Любові, і Вячаслава.

Пасля Наталлі нарадзіліся 2 сыны – **Дзіма і Максім**. Дзіма вучыцца на завочным аддзяленні архітэктурна-будаўнічага каледжа ў Мінску.

Максім любіць музыку, іграе на гітары. Калі паступаў у тэхналагічны інстытут, запрасілі вучыцца на платным аддзяленні. У сям'і не было на гэта грошай, і Максім атрымаў стрэс, з якім здолеў справіцца.

Малодшыя Родзіны вучацца разам з Савіцкімі. **Марына** марыць паступіць у тэхналагічны універсітэт. **Каця** складае кампанію Валі і Веры Савіцкім у школьных выступленняў і італьянскіх паездках. Яе хрышчоныя бацькі – італьянцы. Але і Кацю пад канец паездкі цягне дадому. Самы малодшы – 10-гадовы **Алёша**.

Уся сям'я добра ўжываецца разам, нават калі адныя вучаць урокі, а другія ў суседнім пакоі іграюць на гітары. Дзеці гавораць, што ў іх кватэры весела, але шумна. А па-іншым жыць яны і не прывыклі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Сям'я Савіцкіх (злева-направа, зверху - уніз): Валя, Аня, Оля, Віця, Людміла Мікалаеўна, Аляксандр, Віктар Піліпавіч, Люда, Вера, Ігар.



Сям'я Родзіных: Марына, Каця, Максім, Любоў Мікалаеўна, Наташа, Міша, Дзіма і Алёша.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# Масквіч

У арыгінале – "Москвич", назва легкавых аўтамабіляў, якія выпускаў Маскоўскі аўтамабільны завод імя Ленінскага камсамола (да 1969 года – Маскоўскі завод малалітражных аўтамабіляў). Акрамя базавых аўтамабіляў (гл. табліцу), створана некалькі сямействаў аўтамабіляў "Масквіч": легкавы аўтамабіль з ручным кіраваннем для інвалідаў (мадэлі 401Б, 402Б, 407Б, 403Б, 408Б), грузапасажырскі з кузавам "універсал" (мадэлі 423, 424, 426, 427), грузавы з кузавам "фургон" (мадэлі 422, 430, 432, 433, 434), аўтамабіль павышанай праходнасці легкавы (мадэлі 410, 410Н) і грузапасажырскі (мадэль 411). Высокія тэхніка-эканамічныя якасці "Масквічоў" з'явіліся асновай для паспяховых выступленняў спартсменаў на гэтых аўтамабілях у спаборніцтвах.

У маі 1967 года выпушчаны мільённы аўтамабіль "Масквіч" (мадэлі 408); да 1 студзеня 1973 года выпушчана каля 1,6 млн. "Масквічоў". З 1967 года вытворчасць "Масквічоў" дубліраваная ў Іжэўску.



«Масквічы» выдатна сябе зарэкамендавалі ў спартыўных спаборніцтвах, у тым ліку ў мнагадзённых на рэгулярнасць руху (тыпу ралі). Гэты «Масквіч-412» прайшоў не адну тысячу «ралійных» кіламетраў. Фота з архіва «РГ».

## Тэхнічная характарыстыка базавых мадэляў аўтамабіля «Масквіч»

| Паказчыкі | Мадэль | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 400 | 401 | 402 | 407 | 403 | 408 | 412 |
| Колавая база, *мм* | 2340 | 2340 | 2370 | 2370 | 2380 | 2400 | 2400 |
| Размеры, *мм:* | | | | | | | |
| даўжыня | 3855 | 3855 | 4055 | 4055 | 4040 | 4090 | 4196 |
| вышыня | 1545 | 1555 | 1560 | 1560 | 1560 | 1480 | 1480 |
| шырыня | 1375 | 1400 | 1540 | 1540 | 1540 | 1550 | 1550 |
| Маса снаражанага аўтамабіля, *кг* | 845 | 855 | 980 | 990 | 980 | 990 | 1045 |
| Аб'ём рухавіка, *л* | 1,07 | 1,07 | 1,22 | 1,36 | 1,36 | 1,36 | 1,48 |
| Макс. магутнасць рухавіка, *квт (к. с.)* | 17(23) | 19,2(26) | 25,9(35) | 33,3(45) | 33,3(45) | 37(50) | 55,5(75) |
| пры частаце кручэння, *аб/мін* | 3400 | 4000 | 4200 | 4500 | 4500 | 4750 | 5800 |
| Максімальная хуткасць, *км/г* | 90 | 90 | 105 | 115 | 115 | 120 | 140 |
| Агрэгаты, якія былі распрацаваныя для дадзенай мадэлі | – | Мадэрнізаваныя каробка перадач, рухавік | Кузаў, рухавік, падвеска | Рухавік, каробка перадач, галоўная перадача | Падвеска, руль, тармазы | Кузаў, рухавік | Рухавік |
| Год пачатку вытворчасці | 1946 | 1954 | 1956 | 1958 | 1962 | 1964 | 1967 |
| Год зняцця з вытворчасці | 1954 | 1956 | 1958 | 1963 | 1965 | ? | ? |

# Асноўныя няспраўнасці дызеляў легкавых аўтамабіляў

### «Натуральны» знос

Знос рухавіка і дэталяў паліўнай апаратуры пасля вялікага прабегу сярод няспраўнасцяў займае далёка не апошняе месца. Асноўная праблема звязаная звычайна са зніжэннем кампрэсіі з-за зносу поршневай групы. У гэтым выпадку рухавік дрэнна запускаецца ў халодную пагоду нават пры спраўных свечках напальвання і зімнім паліве. Пры тым ён лёгка заводзіцца з буксіра і не дастаўляе праблем з запускам. Для даведкі адзначым, што ніжняя мяжа кампрэсіі ў большасці рухавікоў складае 20-26 бар.

Другімі важнымі прыкметамі зносу рухавіка з'яўляюцца павышаныя расход масла і ціск картэрных газаў (больш за 10 мм вод. ст). Рэгуліроўкамі тут ужо не дапамагчы і альтэрнатывы капрамонту ў гэтым выпадку няма.

Знос распыляльнікаў фарсунак прыводзіць да з'яўлення чорнага дыму на выхадзе і павелічэння расходу паліва. Бывае, распыляльнік "закусвае" і ў яго характэрны стук, які суправаджаецца з'яўленнем едкага белага дыму. Пры нармальнай эксплуатацыі рэсурс распыляльнікаў звычайна складае 60-80 тыс. км.

Доўгая эксплуатацыя рухавіка з няспраўнымі распыляльнікамі фарсунак звычайна прыводзіць да прагарыны форкамер і потым поршняў. Часта сустракаюцца і зносы плунжарных пар ППВЦ, якія звычайна суправаджаюцца цяжкасцямі запуску гарачага рухавіка.

### Вынікі няякаснага рамонту

Рамонт дызеля патрабуе добрага ведання асаблівасцяў канструкцыі рамантуемага матора і добрасумленнага выканання інструкцыі па рамонту, а таксама якасных запчастак. Спробы адрамантаваць танней у "гаражных" майстроў з выкарыстаннем запасных частак невядомага паходжання часцей за ўсё прыводзяць да страты грошай, а то і загубленага рухавіка.

### Разгледзім некаторыя памылкі пры рамонце дызеляў

Пры абрыве рэменя ГРМ няма сэнсу ўстанаўліваць новы без зняцця і рамонту галоўкі блока цыліндра, бо клапаны "сустракаюцца" з поршнямі на любым дызелі. Пры гэтым хоць бы 2-3 клапаны патрабуюць замены. Выключэннеў зусім мала; толькі ў рухавікоў Renault 2,1 і Ford 2,5 пры ўдары поршняў па клапанах зламаныя рокеры і дэфармаваныя штангі прыводу клапанаў дастаткова надзейна захоўваюць клапаны ад пашкоджанняў. У выпадку аслаблення пасадкі віхравых камер у галоўках блока рухавікоў VW, Peugeot, BMW спрабаваць закерніць іх няма сэнсу – яны ўсё роўна выпадаюць. Трэба мяняць галоўку блока.

Устаноўка галоўкі на блок рухавікоў VW без утулак недапушчальная – перакос галоўкі з наступнай прагарынай пракладкі амаль непазбежны.

Спроба абысціся заменай поршневых кольцаў пры зносе цыліндраў звыш 0,1 мм бессэнсоўная – новыя кольцы пройдуць не больш за 10 тысяч км, а звычайна яшчэ менш. Няма карысці і ад устаноўкі новых намінальных поршняў без расточкі блока цыліндраў. Адзінае правільнае рашэнне – растачыць блок пад рамонтны размер. Замена кольцаў звычайна патрабуецца толькі ў выпадку моцнага перагрэву рухавіка і страты ім пругкасці.

У выпадку разбурэння шатуновага ўкладыша ці яго праварочвання (гэта суправаджаецца перагрэвам ніжняй галоўкі шатуна) шатун патрабуе абавязковага рамонту ці замены, бо рухавік зноў пачне "стукаць" на першай жа тысячы кіламетраў.

Рамонт паліўнай апаратуры "на калене" немагчымы. Для паспяховага рамонту ППВЦ патрабныя стэнды, спецпрыстасаванні, тэхналагічныя карты і механікі, якія ведаюць асаблівасці рамонту помпаў дадзенай мадэлі. Пры невыкананні гэтых умоў помпа будзе хутчэй за ўсё загублена беззваротна.

Правільна адрамантаваны і сабраны рухавік заводзіцца без асаблівых праблем стартэрам. Калі матор не заводзіцца, неабходна шукаць прычыну, а не цягаць аўтамабіль на вяроўцы многія кіламетры. Буксір – верны спосаб загубіць толькі што сабраны рухавік.

Г.ЦВЕЛЕЎ, "Мотасэрвіс" http://www.mdisel.ru

■ ПАРАДЫ МЕХАНІКА




## Паветраны фільтр

**Каштуе не так многа, а можа выклікаць вялікія праблемы.**
**Многія вадзіцелі проста не разумеюць, што кошт замены фільтра шмат таннейшы за кошт залішне спаленага паліва. Акрамя таго, калі фільтр брудны, рухавік выдзяляе шмат больш $CO_2$.**

Акрамя паліва рухавікі спажываюць вельмі многа паветра. Трапляе яно проста з атмасферы, часта забруджанае пылам, пяском, сажай... Бруд можа нашкодзіць рухавіку, прыводзіць да заўчаснага выхаду са строю цыліндраў, поршняў.

Каб пазбегнуць гэтага, нашыя аўтамабілі маюць спецыяльныя фільтры, якія выконваюць сваю ролю толькі ў тым разе, калі зменныя ўкладкі ў іх чыстыя. Найлепшыя фільтры з сухімі ўкладкамі з порыстай паперы. Яны павінны быць акрэсленых вытворцам параметраў, гэта значыць, прапускаць адпаведную колькасць паветра. Калі яго праходзіць мала – тады ўзрастае расход паліва.

Прабег аўтамабіля, падчас якога фільтр выконвае сваю ролю, знойдзем або ў інструкцыі да фільтра, або ў апісанні аўтамабіля. У любым выпадку ён знаходзіцца ў межах ад 10 да 40 тысяч кіламетраў. Але гэта толькі для нармальных умоў. Гэта не тычыцца мясцовасцяў з пыльнымі дарогамі.

Раю аднак мяняць укладкі часцей. Калі рэкамендуецца замена праз 10 тысяч, заменіце яго на 2 тысячы раней. Калі 20 тысяч – на 4 тысячы. Можна проста агледзець укладку і упэўніцца ў чысціні фільтра. Рэкамендуецца таксама пасля паловы прабегу прадзьмуць фільтр сціснутым паветрам.

Нагадаю, што ўкладкі – аднаразовага ўжытку. Спробы ачысціць або памыць іх ніколі не прыносілі эфекту. Такі фільтр можа затрымаць бруд, але таксама праз яго цяжка будзе прабіцца паветру.

Мікалай ІВАНОЎСКІ.

■ АНЕКДОТ

Двое даішнікаў заўважаюць "Запарожац", які нясецца ну на вельмі высокай для яго хуткасці. Адзін з іх выходзіць на сярэдзіну дарогі і дае знак спыніцца. Тачка яго абівае і метраў так праз 100 спыняецца. Другі даішнік падыходзіць да вадзіцеля і пытаецца:

— Як у нас з дакументамі?

— Гэтак жа, як і з тармазамі, – адказвае вадзіцель.

 



# У ва што абуваемся?

## Шыны

**Шыны ў продажы сустракаюцца новыя і не вельмі, камерныя і бяскамерныя, радыяльныя, дыяганальныя, шыпаваныя і з аквапрофілем. Ад таго, у ва што абуты аўтамабіль, залежыць яго ўстойлівасць на дарозе, камфортнасць язды і вашая бяспека. Таму пры выбары шын карысна мець пра іх максімум неабходнай інфармацыі.**

Па сваім канструкцыйным выкананні шыны дзеляцца на камерныя і бяскамерныя. Камерныя адышлі ў мінулае. Акрамя таго, што ў камерных колаў ёсць цяжкасці з шынамантажом, яны вельмі адчувальныя да праколаў.

Прымяненне бяскамерных шын павышае бяспеку, бо унутраны герметызавальны слой мае ўласцівасці абвалакваць цвік або іншы прадмет пры праколе і перашкаджае выхаду паветра. У камернай шыне камера адчувае напружанасць, і пры пашкоджанні вызваляюцца сілы расцягвання і павышаюць выхад паветра.



Шыны, як і абутак, – не вечныя.

Фота IREX/ProMedia.

Дыяганальная шына адрозніваецца ад радыяльнай канструкцыяй каркаса, накіраванасцю корда і тым, што пакупніку нецікава. Цікава будзе іншае. Радыяльныя шыны валодаюць шэрагам пераваг перад дыяганальнымі. Асноўнымі з іх з'яўляюцца меншы знос, меншае супраціўленне качэння, бездакорны рух па прамой, больш хуткая рэакцыя на паварот руля, меншая адчувальнасць пры пераездзе праз перашкоду (рэйкі і г.д.), лепшая характарыстыка пругкасці, большая грузападымальнасць у параўнанні з дыяганальнымі такога самага профілю. Радыяльныя шыны маюць пры гэтым большы рэзерв хуткасці.

У якасці недахопу радыяльнай шыны можна назваць большую масу і адпаведна большы момант інерцыі кручэння, што заўважна пры разгоне і тармажэнні.

Аднак гэтыя недахопы поўнасцю кампенсуюцца пералічанымі перавагамі, таму сёння практычна ўсе легкавушкі аснашчаныя радыяльнымі шынамі. Выключэнне складаюць аўтамабілі, прызначэнне якіх – рухацца ў складаных умовах і па перасечанай мясцовасці, а таксама гоначныя аўтамабілі.

Шыны з радыяльным каркасам маюць некаторыя асаблівасці: у іх больш тонкія і менш трывалыя бакавіны, якія лёгка пашкодзіць, напрыклад, аб бардзюрны камень.

Трэба падтрымліваць нармальны ціск паветра ў радыяльных шынах, у іншым выпадку тэрмін іх службы значна скароціцца.

На правае і левае колы таго самага маста павінны быць устаноўленыя аднатыпныя шыны той самай мадэлі. Катэгарычна забараняецца ставіць на адно кола дыяганальную шыну, а на другое – радыяльную, бо пры гэтым пагаршаюцца ўстойлівасць і кіруемасць аўтамабіля.

На розныя масты аўтамабіля можна ставіць рознатыповыя шыны, але гэта непажадана. Калі ўжо гэта адбылося, то радыяльныя шыны павінны стаяць на задніх колах, а дыяганальныя – на пярэдніх. Інакш аўтамабіль набудзе так званую збыткоўную паварочваемасць, пры якой пагаршаецца ўстойлівасць прамалінейнага руху, павялічваецца схільнасць аўтамабіля да заносу, цяжкім становіцца прахаджэнне паваротаў.

Кожная шына можа вытрымаць пэўную нагрузку. Больш таго, пры рэзкім тармажэнні і разгоне нагрузка павялічваецца. Канструктары аўтамабіляў пры разліку тармазной сістэмы прымяняюць каэфіцыент пераразмеркавання нагрузкі 1,4, г.зн., пры экстраным тармажэнні нагрузка на шыну ўзрастае амаль напалову. Канечне, ніхто не хоча, каб у экстрэмальнай сітуацыі шыны падвялі. Пры выбары шын памятайце гэта і абавязкова пацікаўцеся, на якую нагрузку шына разлічаная.

## Канструкцыі

Дыяганальныя шыны па комплексе сваіх тэхніка–эканамічных характарыстык значна саступаюць радыяльным, і таму для легкавікоў не выкарыстоўваюцца. Бяскамерныя шыны маюць шэраг пераваг перад камернымі (меншае супраціўленне качэнню, меншая вага, значна лепшыя характарыстыкі бяспекі). Аднак эксплуатацыя гэтых шын патрабуе выключэння выпадкаў дэфармацыі элементаў вобаду кола (закраін), што няпроста забяспечыць на беларускіх дарогах. Па гэтай самай прычыне не варта захапляцца звышнізкапрофільнымі шынамі. Адзначым, што гэтыя шыны маюць адносіны вышыні да шырыні 60, 55, 50, 45, 40, 35% і прызначаныя для хуткасных машын і добрых дарог.

## Сезоннасць

Існуе тры віды рысунка пратэктара для легкавых аўтамабіляў.

Першы – гэта шыны з летнім рысункам пратэктара (або дарожным). Пратэктар мае шмат элементаў, якія ўтвараюць прадольныя канаўкі і рэбры. Мікрарысунка, як правіла, на іх няма. Такія шыны прызначаныя для асфальтабетонных дарог з сухім і мокрым пакрыццём і амаль не падыходзяць для язды па прасёлачных дарогах, асабліва ў гразь. Тым больш яны не падыходзяць для заснежаных дарог у любым стане.

Другі – шыны з універсальным рысункам пратэктара (усесезонныя). Канаўкі паміж элементамі даволі шырокія ў прадольным і папярэчным накірунках. Пратэктар мае яшчэ і мікрарысунак – вузкія ("нажавыя") прарэзі. Універсальны рысунак дае добрае счапленне і мяккім грунтам. Універсальныя шыны значна лепш, чым летнія, паводзяць сябе на зімніх дарогах. Аднак на цвёрдым пакрыцці (асфальтабетон) універсальны пратэктар зношваецца на 10–15% хутчэй за летні.

Трэці – шыны з зімнім рысункам пратэктара, які ўтвараецца асобнымі блокамі, раздзеленымі шырокімі канаўкамі. На канаўкі прыходзіцца 25–40% плошчы пратэктара. Зімнія шыны маюць шырокі дыяпазон тыпаў і форм пратэктара – ад адносна гладкіх універсальнага выкарыстання (для ачышчаных зімніх дарог) да грубых з развітымі грунтазачэпамі, якія прызначаныя для заснежаных дарог з лёдам. Зімнія шыны часта забяспечваюцца шыпамі. На асфальтабетонных пакрыццях у летні перыяд такія шыны зношваюцца вельмі інтэнсіўна і адрозніваюцца высокай шумнасцю. Аднак цяпер сустракаюцца зімнія шыны новага тыпу.

Тэхналогія ламеліравання пакрышкі (забеспячэнне яе тонкімі металічнымі пласцінкамі–ламелямі) гарантуе высокую бяспеку пры эксплуатацыі аўтамабіля ў любых умовах надвор'я і пры любым стане дарожнага пакрыцця. Новыя пакрышкі забяспечваюць спакойную язду зімой, але і могуць паспяхова канкураваць з летнімі пры яздзе па сухой паверхні.

Добрае счапленне і высокая цяга пры выкарыстанні гэтых пакрышак дасягаются за кошт тонкіх металічных пласцін, якія ўпіваюцца вострымі краямі ў слізкую дарогу. Дзякуючы асабліваму саставу гумы шыны нават пры самай нізкай тэмпературы захоўваюць эластычнасць. Выкарыстанне металічных пласцін дазволіла зменшыць знешнюю адрознасць між зімовымі і летнімі пакрышкамі і звесці да мінімуму шум, які суправаджае рух. Рэакцыя рынку на з'яўленне новых шын была імгненнай. Прыкметна ўзрасла гатоўнасць аўтааматараў набыць камплекты зімовых пакрышак, пашырыўся асартымент прадукцыі. Напрыклад, у Германіі каля 40% аўтмабілістаў рэгулярна замяняюць гуму зімой, у тым ліку многія гаспадары машын з рухавікамі вялікай магутнасці, а службовы транспарт, які знаходзіцца ў валоданні фірм, амаль на 100% выкарыстоўвае зімнія шыны.

Колькасць уладальнікаў зімовых камплектаў сярод шафёраў аўтамабіляў хуткаснага класа расце. І гэта тлумачыцца тэхнічнымі асаблівасцямі пакрышак для машын высокага класа. Шырокія шыны дарагіх аўтмабіляў дрэнна забяспечваюць счапленне з дарожным пакрыццём пры яго абледзяненні. У сырое зімовае надвор'е нават пры плюсавой тэмпературы хуткасныя аўтамабілі на шырокіх шынах летняй канфігурацыі пастаянна падвяргаюцца небяспецы заносу. Нават у сухое надвор'е пры тэмпературы ніжэй за 7 °С іх тармазны шлях значна павялічваецца. Улічваючы гэта, вытворцы пачалі выпускаць камплекты зімовых пакрышак адпаведнай шырыні для аўтамабіляў, якія развіваюць хуткасць 190—210 км/г.

Пераходзіць на зімовыя шыны рэкамендуецца ўсім аўтаўладальнікам. Аднак лішні камплект каштуе нятанна. Тым, хто лічыць такія затраты неапраўданымі, трэба прыняць пад увагу, што пры выкарыстанні зімовых пакрышак хаця б 4 месяцы на год летняя гума менш зношваецца. Таму, вырашаючы пытанне аб набыцці зімняга камплекта шын, вадзіцель павінны ўлічыць характар мясцовасці, па якой яму давядзецца ездзіць. Так, уладальнік аўтамабіля сярэдняй магутнасці, які ездзіць пераважна па горадзе, можа абысціся без замены летняга камплекта. Аднак ездзіць з летнімі шынамі на снезе і лёдзе на машыне, якая здольная развіваць хуткасць больш за 200 км/г, недапушчальна. Зразумела, зімовыя шыны павінныя быць прыдатнымі не толькі для язды па заснежаных дарогах, але і для руху па сухім і мокрым асфальце.

## Маркіроўка шын

**Надпісы на шынах, з пункту гледжання аўтааматара, можна падзяліць на асноўныя і інфармацыйныя. Асноўныя надпісы выконваюцца буйным рэльефным шрыфтом і паведамляюць спажыўцу наступную інфармацыю: назва фірмы–выробцы, мадэль шыны, размер, тып шыны, індэксы хуткасці і грузападымальнасці. Напрыклад, Mischelen 175/70 R13 80S STEEL RADIAL TUBELESS азначае, што шына выпушчаная фірмай "Mischelen"; шырыня профілю шыны 175 мм; адносіны вышыні шыны да шырыні 70%; шына радыяльная ("R") і ("Radial"); дыяметр вобаду 13 цаляў, індэкс грузападымальнасці 80, максімальна дапушчальная нагрузка 450 кг; S — індэкс дапушчальнай хуткасці, у дадзеным выпадку 180 км/г; STEEL — шына з металакордам; TUBLESS — бяскамерная. Калі шына камерная, то замест слова TUBLESS будзе слова TUBE, або TUBE TYPE. Калі адсутнічае лік у назоўніку дробу, то адносіны вышыні шыны да шырыні 80%.**

**Шэраг інфармацыйных надпісаў і індэксаў таксама могуць ўяўляць інтарэс для аўтаамата-ра: дата вытворчасці, штамп АТК з указаннем сорта шыны (для СНД), балансіровачная метка – кропка або кружок, выкананыя светлай фарбай і размешчаныя ў самым лёгкім месцы шыны (пры шынамантажы гэта месца сумяшчаюць з вентылем); для шын павышанай праходнасці на бакавіне (рух наперад); для зімніх шын індэкс "M+S" (MUD AND SNOW) — гразь і снег; узмоцненыя шыны абазначаюць надпісам "RAINFORCED"; DOT — абазначэнне, якое паказвае, што выробца гарантуе адпаведнасць стандарту ЗША па патрабаваннях да бяспекі руху; літара "Е" з лічбавым індэксам у колцы пацвярджае, што шына атрымала сертыфікат адпаведнасці еўрапейскаму стандарту бяспекі – Правілу 30 ЭЭК ААН (лічбавы індэкс – код краіны, у якой шына праверsucceeded на адпаведнасць). Акрамя гэтага, на шыне могуць указваць тып і канструкцыю корда, наносіць індыкатары зносу, абазначэнні стандартаў.**

**Разбярэмся з індэксамі дапушчальнай хуткасці. Яны, як указвалася вышэй, літарныя, а менавіта: L — 120 км/г; M — 130; N — 140; P — 150; Q — 160;R — 170; S — 180; T — 190; H — 210; V — 240 і W — 270 км/г. Індэксы хуткасці ставяцца адразу пасля індэкса грузападымальнасці. Калі індэкса хуткасці няма, то дапушчальная хуткасць не перавышае 150 км/г. Індэксы грузападымальнасці лічбавыя. Чым большая лічба індэкса, тым большая грузападымальнасць — "72" — 355 кг; "76" — 400 кг; "82" — 475 кг; "84" — 500 кг; "95" — 650 кг.**



 

# Партызан, вучоны, пісьменнік

Калі перабіраў асабістыя архівы, то наткнуўся на запрашэнне... Доўга ўглядаўся на здымак Фёдара Янкоўскага, з якім не раз сустракаўся, меў перапіску з ім... Здымак змешчаны менавіта ў запрашэнні на вечар памяці выдатнага дзеяча беларускай культуры, вучонага-мовазнаўца, пісьменніка. Там кінуліся ў вочы словы Л.Генюш "Як жыць, дык жыць для Беларусі, а без яе – зусім не жыць"... Мяне кранулі гэтыя набатныя словы. Мне захацелася згадаць постаць адраджэння чалавека з вялікай літары. Лічу, што жыццё Фёдара Янкоўскага поўнасцю адпавядае гэтаму наказу.

Вечарыну арганізаваў Беларускі фонд культуры 12 лютага 1991 года ў Доме літаратара. Прайшло больш за 40 гадоў, як убачыла свет першая аб'ёмная праца Фёдара Янкоўскага "Беларускія народныя прыказкі, прымаўкі". За гэты час з-пад пяра доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі БССР, пісьменніка, легендарнага партызана выйшла больш за два дзесяткі кніг, прысвечаных роднаму краю, роднай мове. Ён — аўтар трапных і глыбокіх па зместу апавяданняў, абразкоў. Фёдар Янкоўскі абышоў і аб'ездзіў родную Бацькаўшчыну, як кажуць, уздоўж і ўпоперак, запісваў словы роднага краю, збіраў у ранец духоўную спадчыну...

Усё пражытае і перажытае б'е праз край гарачай памяці. Незагойнай ранай свідравала сэрца ветэрана вайны, начальніка разведкі атрада "Грозны". Фёдар Янкоўскі партызаніў на тэрыторыі былога Радашкавіцкага раёна. Многія яго апавяданні-абразкі адлюстроўваюць падзеі, якія мелі месца ў дні партызанскай барацьбы з фашыстамі. Гэта "Сход", "Камарнікі", "Алік", "На хутары" і іншыя.

У маіх руках пажоўклы ліст ад 20 студзеня 1949 года. Яго напісаў Фёдар Міхайлавіч да свайго сябра, кавалера ордэна Айчыннай вайны Паўла Васільевіча Шаханава, які цяпер жыве ў вёсцы Краснае: "Дзень добры, Пашка! Дзень добры! Дзень добры! Піша табе ўваскрэсшы з мёртвых (ужо былі такія размовы і толкі)... Выпадкова даведаўся, што ў Радашкавічах...".

А да восені Фёдар Янкоўскі і сам ужо быў у Радашкавічах.

— Сам я з Валагодскай вобласці, не заканчваў вышэйшай установы. Але гэта не перашкодзіла нам сябраваць. Партызанская дружба нас зблізіла на ўсё жыццё, — успамінае Павел Васільевіч.

Першы раз Шаханаў і Янкоўскі сустрэліся ў 1942 годзе ў вёсцы Саломерычы, што на Міншчыне, дзе настаўнічаў да вайны ў пачатковых класах аўтар кнігі "І за гарою пакланюся".

— Ведаеце, прызнаецца Павел Васільевіч, — пра гэта вельмі цяжка гаварыць, і забыць немагчыма. Фёдар плакаў на пажарышчы, калі збіраў костачкі сваёй дачушкі Іны. У той дзень фашысты забілі і жонку Фёдара. Не магу выказаць словамі, як гэты чалавек вынес на плячах такое гора. З рызыкай для жыцця хадзіў на самыя адказныя заданні.

Нельга не пагадзіцца са словамі Шаханава, што малады настаўнік, рана аўдавеўшы, гора чэрпаў поўніцай. Ён шукаў смерці, але яна кожны раз адступала, хоць неаднойчы сустракаў яе.

У вёсцы Кліманты Маладзечанскага раёна стаяла партызанская група, дзе за старшага быў Фёдар Міхайлавіч. Людзі не маглі даць дзецям лусту хлеба на поўную губу... На стале панавала нішчымніца. Вясна глядзела ў вочы вяскоўцаў. Настаўнік папрасіў, каб крыху сабралі зярнят, каб "не дапусціць галечу ў хаты!". Людзі, хто ў торбе, хто ў місцы прыносілі жыта, ячмень... Восень і зіму вяскоўцы і партызаны былі з хлебам...


Фёдар Янкоўскі з унукам Юрасікам. 1984 г. Фота з кнігі Ф. Янкоўскага «З далёкіх дарог».

Калі я ўжо развітваўся з гаспадаром хаты ў Красным, Павел Васільевіч паказаў здымак ваеннага часу, дзе Фёдар Міхайлавіч са сваімі сябрамі-партызанамі сфатаграфаваўся ў 1974 годзе каля помніка партызанам у Манілах, партызанскім штабе. На гэтым здымку я ўбачыў свайго сябра па інстытуце (цяпер лінгвістычны універсітэт) Адама Вікенцьевіча Шыдлоўскага, дацэнта гэтай вышэйшай вучэбнай установы. Ён ваяваў у брыгадзе "Штурмавая". І вось сустрэча. Успаміны былога партызана:

— Не забыць, не выкрасліць з памяці чорны дым над Хатынню, Каланіцай, Асаўцом, Саломерычамі, дзе працаваў настаўнік Фёдар Міхайлавіч.

Прызнацца, мяне прыемна ўразіла, што мой сябар ваяваў пад кіраўніцтвам Янкоўскага, дакранаўся душою і сэрцам да роснай, сакавітай матчынай мовы з яе трапнымі выразамі, якую ў тыя суровыя дні збіраў настаўнік. Каржакаваты, невысокага росту, з разумнымі шэрымі вачыма, бялявы, чымсьці нагадваў дзеда Талаша, героя кнігі Якуба Коласа "Дрыгва", Адам Шыдлоўскі паважаў мастацкае слова. У студэнцкія гады мы часта выступалі перад студэнтамі, калгаснікамі падчас "студэнцкага дэсанта" на бульбяным полі.

— Ён мог загінуць кожную хвіліну. Але вяртаўся ў атрад не толькі з данясеннем, а і з новымі выслоўямі, прымаўкамі, пачутымі ў вёсках. Гэта быў чалавек шчодрага і мудрага жыцця. Ён усюды пакідаў пасля сябе добрую памяць. Героі яго кніг не выдуманыя. Усё, аб чым ён пісаў, гэта жывая праўда. Вось адзін абразок з партызанскага жыцця тых суровых дзён. І Адам Вікенцьевіч па-майстэрску пачытаў: "...Рота эсэсаўцаў зрабіла раптам налёт на вёску. Кулямётная і аўтаматная траскатня падняла разведку на ногі, але пакуль разведчыкі даскакалі на конях з суседняй вёскі, фашысты былі ўжо амаль каля сваіх бункераў... Мы кінуліся на стогны і замерлі: на шырокай, выбітай сцежцы ляжала жанчына. Адарваная ў калене левая босая нага, пашкамутаная правая... Жанчына стагнала. Я нахіліўся над ёю. Яна расплюшчыла вочы і пазнала мяне:

— Дзеткі!.. А дзе мае дзеткі?.. Скажыце каму, начальнік, загадайце... Каб мае дзеткі, каб дзеткі мае не бачылі мамы сваёй такою...

Вочы яе заплюшчыліся. Назаўсёды сцішыліся"...

У Акадэміі навук нашай рэспублікі працаваў Аляксандр Вячаслававіч Свірскі, адзін з першых вучняў Янкоўскага, яго баявы сябар і герой абразка пад загалоўкам "Алік". Фёдар Міхайлавіч пры сустрэчы вельмі цёпла і ўсхвалявана расказаў мне пра свайго смелага вучня, маці якога забілі фашысты. "Алік Свірскі не раз прымушаў мяне моцна хвалявацца, дасціпны хлапчына быў, смелы да неверагоднасці, стрымліваць даводзілася", — успамінаў настаўнік.

Аляксандр Свірскі, палкоўнік у адстаўцы, былы разведчык атрада "Грозны" брыгады "Штурмавая" прыгадваў:

— Фёдар Міхайлавіч — вельмі блізкі для мяне чалавек. У чорную часіну ён быў, як бацька, добрым дарадцам, настаўнікам і строгім камандзірам. У жыцці я бяру прыклад са свайго старэйшага сябра. Не адчуваў такога страху перад ворагам, больш баяўся позірку свайго камандзіра... Праўда, у партызанах маладосць, часам, брала верх над розумам.

У Радашкавічах быў паліцэйскі гарнізон. Каля камендатуры часта стаялі, прывязаныя да слупоў, стройныя, у белых панчохах скакуны. А ў маладога партызана быў худы і нязграбны конік без сядла. Не раз хлопец тайком прыглядаўся да фашысцкіх рысакоў. Спакуса завалодаць жывым трафеем і зыканскім сядлом з кожным днём расла. План выспеў... Сярод белага дня Алік цішком ад камандзіра паехаў спакойным крокам ў Радашкавічы. Прывязаўшы свайго, ён перасеў на рысака, на якім ездзіў камендант... Па словах Фёдара Міхайлавіча, "усё перагарэла ў сярэдзіне", калі спахапіўся, што няма "ваякі". А калі той вярнуўся, слёзы стаялі ў вачах камандзіра, але погляд іх быў суровы. Цэлыя суткі рызыкант пакутаваў ад таго, што настаўнік не заўважаў яго, хоць стараўся трапіць яму на вочы, гатовы любы загад выканаць. Калі крыху адлягло, Фёдар Міхайлавіч сам загадаў з'явіцца вучню:

— Яшчэ адно парушэнне дысцыпліны і будзеш сядзець дома, дапамагаць кабетам на кухні... Алік глянуў на ласкавы твар камандзіра, вочы яго заіскрыліся радасцю, ён кінуўся абнімаць свайго настаўніка...

— У баі каля Радашкавіч, на хутары Кубічыхі, мы зрабілі засаду. Усім быў строгі загад: страляць толькі па маторах і кабінах грузавікоў. У гэтым баі я з адной чаргі аўтамата ўлажыў чатырох фрыцаў. Мне ўдалося захапіць чатыры новенькія пісталеты. Адзін падарыў свайму камандзіру.

... Навуковыя працы Фёдара Янкоўскага набылі крылатую славу айчынных і замежных славістаў.

— Такі набытак не сорамна ад імя Беларусі пакласці на літаратурны стол, — гаварыў пра творчасць Янкоўскага Янка Брыль.

Не простыя жыццёвыя ступені сына малазямельнага селяніна, што на Глушчыне. Давялося ў дзяцінстве пакаштаваць пастуховы хлеб... Пры Саветах ён – навучэнец тэхнікума і адначасова студэнт-завочнік настаўніцкага інстытута. Трапіў на фінскую вайну, быў цяжка паранены.

Апошняя вайна пакалечыла цела настаўніка, прыкавала да ложка. Думкі вучонага былі вольныя і поўныя светлых спадзяванняў у заўтрашні дзень. Дакладна ведаў няўрымслівы вынаходца, што ў матчынай мове ёсць невычэрпная крыніца ўстойлівых словазлучэнняў, згусткаў народнай мудрасці. Яшчэ не зусім акрыяўшы пасля хваробы, Фёдар Міхайлавіч пакінуў шпіталь і накіраваўся ў Мінск. Гэта быў 1948 год. Па словах былой настаўніцы Радашкавіцкай школы, блізкай прыяцелькі вучонага, жонкі першага дырэктара школы Ксеніі Георгіеўны Рамаліоўскай: "Худы, хворы, змарнаваны прыехаў Фёдар Міхайлавіч у нашу школу з Маладзечанскага раёна па просьбе майго мужа Міхаіла Цімафеевіча". Новая двухпавярховая драўляная школа толькі першы год працавала. Выбралі для яе маляўнічае месца над рэчкай у цэнтры мястэчка.

Я завітаў да сваёй калегі. На свае шаноўныя гады гаспадыня хаты выглядала жвавай, непаседлівай. А ёй ужо пастукала ў вокны 93-я вясна. На той час яна выбірала суніцы з уласнага гарода. Пачаставаўшы мяне духмянымі ягадамі, запрасіла ў хату. Паказала кніжкі з аўтарскімі подпісамі. Узялася за альбомы. І тут цень незадавальнення прабег па маршчыністым твары.

— Во, аддай рукамі, хадзі нагамі. Ёсць жа людзі, калі не дасі – адзін гнеў, а пазычыў – гнеў удвайне. Брала тут адна настаўніца, нібыта для музея. Год прайшоў, таго музея няма і здымкаў не вярнула. Гэтыя альбомы, як сямейны архіў, наша неацэннае багацце, я спецыяльна аздабляла для нашых унукаў і праўнукаў". Тут было шмат здымкаў Фёдара Міхайлавіча, пісьмы. Ксенія Георгіеўна абяцала патэлефанаваць да той геаграфічкі, бо такія сямейныя рэчы не павінны быць на чужых руках.

З мацярынскай ласкай яна апавядала пра першыя крокі настаўніцкай дзейнасці "сапраўднага, шчырага беларуса". Я заўважыў слёзы на вачах гаспадыні, калі яна прыгадала эпізод прыезду Фёдара Міхайлавіча на працу ў Радашкавічы. Як ужо гаварылася, з Маладзечанскага раёна ён трапіў у мястэчка. У аддзеле народнай адукацыі ён выразна ўбачыў жанчыну, як дзве кроплі вады падобную на яго нябожчыцу-жонку. Прытомнасць пачала пакідаць яго, незнаёмая маладзіца дапамагла чалавеку. На заўтра яны прыехалі на працу. Дырэктар школы Міхаіл Цімафеевіч знайшоў настаўнікам кватэру на Зарэчнай вуліцы. З дапамогай Ксеніі Георгіеўны Серафіма Андрэеўна, выкладчыца беларускай мовы (яна стала сяброўкай Янкоўскага), тупала каля хворага. Паіла яго сырадоем. На той час Рамаўскія трымалі карову, вярталі чалавека да жыцця.

— Бачыце, які лёс іх звёў, — выціраючы слёзы, усміхнулася сівая настаўніца. – Яны пажаніліся...

Кажуць людзі, што шчыраму сэрцу і чужы боль колкі. Тое можна сказаць і пра Рамаўскіх. І гэта адчуў былы партызан. Па просьбе дырэктара старэйшыя вучні прыносілі яго ў школу, дзе ён адчуваў сябе значна лепш маральна і фізічна. Свае творчыя задумы на практыцы бачыў... Свежы вецер сінявокай Бацькаўшчыны загуляў па класах. Вучні адчулі прыгажосць роднага краю, моц і гонар за сваю Радзіму, духоўнае багацце шчодрай душы, прыцягальную сілу чалавека, які здолеў прышчапіць любоў да роднага слова. Загаманіла школа мовай сваіх продкаў. Многія вучні пайшлі сцежкаю свайго настаўніка, а гэта быў гаючы бальзам, лепшае лякарства хвораму целу. Яно прынесла палёгку. Фёдар Міхайлавіч ужо сам прыходзіў у школу.

— Ведаеце, — гаварыла Ксенія Георгіеўна, — Фёдар Міхайлавіч спяшаўся рабіць людзям дабро, пакінуць памяць пасля сябе.

Да прыроды ставіўся, як да жывой істоты. Не цярпеў бяздушных адносін да яе багаццяў. Часта гаварыў: "Сад пасадзіў – добрую справу зрабіў". А сёння карыслівыя людзі спаганілі сад Янкоўскага, луг, рэчку. Зруйнавалі тое, што было зроблена руплівымі рукамі былых вучняў. Карыслівыя зусім забыліся, што жывуць сярод людзей...

Фёдар Янкоўскі марыў, каб у Радашкавічах быў створаны музей, бо гэтыя мясціны унікальныя ў сэнсе гістарычных падзей. Тут праляглі дарогі шматлікіх славутых дзеячаў славянскай культуры з сусветнымі імёнамі.

Дзесьці за год да смерці мы выпадкова спаткаліся каля часопіса "Полымя", што месціцца ў Мінску поруч з плошчай Перамогі. Добрую гадзіну тупалі ў напрамку станцыі метро, то зноў варочаліся да рэдакцыі. Фёдар Міхайлавіч тады паскардзіўся, што не можа стаяць, не адчувае ног, а калі ходзіць, крыху лягчэй. Ён распытваў пра знаёмых настаўнікаў, былых вучняў, пра адраджэнне культуры, мовы. Моцна турбаваўся, прасіў перадаць мясцовай уладзе, каб яна паспрыяла стварыць музей у мястэчку, бо старажытнае селішча са сваёй славутай гісторыяй заслугоўвае гэтага. Не даравальна забыцца пра вытокі нашай Бацькаўшчыны.

... Я развітаўся з Ксеніяй Георгіеўнай Рамаўскай і бачыў, што яе шэрыя вочы пасвятлелі, усмешка гуляла па твары. Яна верыла: удзячныя нашчадкі, як дарагую рэліквію, будуць шанаваць памяць народнага настаўніка, вучонага, партызана з легендарнай біяграфіяй. У час адпачынку пад цяністымі кронамі абноўленага саду паслухаюць ягоныя словы:

"... Заўсёды і ўсюды жыццё маё будзе не дзеля кавалка хлеба: найгалоўнейшае, ад чаго я не адступлюся, хоць апынуся ці ў акопе, ці ў шпіталі, хоць буду галодным ці халодным, — маё роднае слова, родная натура вялікага краю, родная Беларусь. Вы – мая радасць і ўцеха, мая скруха і боль, вы — маё шчасце, жыццё".

**Сымон БЕЛЫ, г.п.Радашкавічы.**

■ ФУТБОЛ

# Сезон адкрые «Белшына»

**МАЛАДЗЕЧНА. Толькі месяц застаўся да старту рэгулярнага сезона.**

Падрыхтоўка футбольных клубаў выходзіць на фінішную прамую.

## "Маладзечна-2000": сарваўся замежны збор

Першы дамашні матч маладзечанцы правядуць у суботу, 26 сакавіка, з бабруйчанамі; камандай, у якой працаваў цяперашні галоўны трэнер маладзечанцаў **Вячаслаў Акшаеў**, як некалі і яго папярэднік Людас Румбуціс.

Планавалася адправіцца ў Славакію спачатку 3-га сакавіка, потым 12-га. Зараз верагодна, што выезд у замежжа на якасныя палі наогул не адбудзецца. Ёсць надзея правесці збор у Польшчы ў дваццатых чыслах сакавіка пры вырашэнні фінансавых і арганізацыйных пытанняў. Пакуль каманда па-ранейшым працуе ў Маладзечне. Заняткі праводзяцца два разы ў дзень на адкрытым паветры. А на мінулым тыдні маладзечанцы паўдзельнічалі ў кругавым турніры чатырох каманд у манежы.

**3 сакавіка. Маладзечна-2000 – Дарыда-ГДЖ 0:2**
**4 сакавіка. Маладзечна-2000 – Зорка-ВА-БДУ 0:5.**
**6 сакавіка. Маладзечна-2000 – Дынама (Мінск) 1:0.**
**Гол:** Макрыцкі (15)

У стартавых двух матчах гулялі ў асноўным футбалісты, што знаходзяцца на праглядзе. У першую чаргу гэта васьмёра выпускнікоў смаленскага вучылішча алімпійскага рэзерву 1985 г.н. Тамтэйшы клуб першай расійскай лігі "Крышталь" не звяртае ўвагу на мясцовых выхаванцаў, таму ім прыходзіцца шукаць магчымасць працаўладкавацца ў іншым месцы. Па словах Вячаслава Акшаева, усе юнакі цікавыя і магчыма застануцца ў Маладзечне гуляць за дубль.


Нападаючы "Маладзечна-2000" Віталь Макрыцкі на мінулым тыдні забіў гол мінскаму "Дынама".
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Супраць дынамаўцаў асноўны склад быў такі: Астапчык – Дрозд, Косак, Сысой – Векшын, Альховік, Кабельскі, Сідарэнка, Пазняк – Веташкін, Макрыцкі.

З трыма ачкамі "Маладзечна-2000" засталося на апошнім месцы. Лепшым гульцом каманды на турніры быў названы **Пазняк**.

## "Смаргонь": перабор легіянераў

На турнір у Івана-Франкоўск не ездзілі, а вось 12-дзённы збор у крымскай Алушце правялі.

Разам з галоўным трэнерам **Уладзімірам Уткіным**, начальнікам каманды **Аляксандрам Лобанам** і адміністратарам **Андрэем Юркевічам** выязджалі 18 футбалістаў.

З леташняга складу гэта **Давідовіч, Дзігілевіч, Дукса, Жачко, Іваноў, Курак, Мяць, Шляхавой**. З беларускіх навічкоў варатар **Яўген Шыдук** (1983 г.н., мастоўскі "Нёман"), які родам са Смаргоні, і трое дасведчаных гульцоў пярэдняй лініі: **Сяргей Кукалевіч** (1973; апошняя каманда сімферопальская "Таўрыя" – Украіна, Д2), **Барыс Карасёў** (1973; казанскі "Рубін" – Расія, Д2), **Аляксандр Валовік** (1974, "Дарыда"). Таксама шэсць легіянераў: абаронцы **Дзяніс Ганчароў** (1981; Луганск, Украіна), **Міхаіл Судзін** (1979; Цвер, Расія), паўабаронцы **Сяргей Грабаздзін** (1973, Цвер), Аляксандр Селіванаў (1977; Чарнігаў, Украіна), **Андрэй Шырабокаў** (1982; Луганск).

Яшчэ варатар **Аляксандр Хіманыч** (1966, Чарнігаў), у функцыі якога ўваходзіць трэнерская дапамога маладым партнёрам. Траўмы перашкодзілі з'ездзіць у Алушту **Казлову** і **Шаблінскаму**, а вось Налівайка, якога вельмі хацелі захаваць у Смаргоні, каманду пакінуў.

Трэніраваліся двойчы ў дзень плюс ранішняя прабежка. Правялі пяць матчаў на грунце. Сустрэліся з крыварожскім "Крыўбасам" (Украіна, Д1), якому саступілі 0:3.

У астатніх матчах гулялі супраць сапернікаў не такіх моцных, у асноўным, мясцовых каманд з трэцяй па ранжыру украінскай лігі. У выніку два паражэнні па 0:1 ды дзве нічыі 0:0 і 2:2 (галы – Грабаздзін).

Варатары гулялі па чарзе, а ў полі атрымліваўся прыкладна такі асноўны склад: Курак, Судзін, Іваноў, Жачко – Кукалевіч, Селіванаў, Карасёў, Грабаздзін, Дукса – Валовік. Напярэдадні магчымы турнір у Гродне і яшчэ адзін выезд у Алушту.

Важна ведаць, што па рэгламенце чэмпіянату краіны ў складзе каманды першай лігі адначасова на полі можа знаходзіцца толькі трое легіянераў, таму ўсе легіянеры, якія разам з камандай рыхтуюцца да сезона, не змогуць зарабіць грошы, якія маркуюць.

## "Забудова": фінансавая нявызначанасць

Каманда трэніруецца тры разы на тыдні, на стадыёне ДЮСШ і ў зале ЗМК.

Звычайна на занятках бываюць 12-14 гульцоў. Усе мясцовыя, усе недзе вучацца ці працуюць. Большасць з іх раней выступала за маладзечанскія каманды, але апошнія год-два была не запатрабаваная. Не выключана, што да гэтага спісу далучацца некаторыя дублёры "Маладзечна-2000".

Галоўны трэнер **Канстанцін Харламаў** склаў мінімальны каштарыс на сезон. Згодна з ім ад прадпрыемства "Забудова" патрэбна сума ў 36 мільёнаў.

Найбольшыя выдаткі адцягвае транспарт для выездаў на гасцявыя матчы. Таксама камандзе неабходна экіпіроўка. На зарплату футбалісты не прэтэндуюць, а вось харчаванне ў дзень матчаў і прэміяльныя хацелася б мець. Накошт стартавага ўзносу ў 12 мільёнаў разлічваюць на райвыканкам. Але гэтыя разлікі застаюцца на паперы. Іх рэальнага ўвасаблення пакуль не бачна.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПАРТРЭТ

## Кіраўнік, марафонец, плывец, веласіпедыст, шматборац у адной асобе

**Працягваем публікацыю інтэрв'ю з загадчыкам Маладзечанскага раённага аддзела па фізічнай культуры, спорце і турызме Аляксандрам Кавалёвым, распачатую ў "РГ" 28 лютага.**

**– Пасля ВНУ настаў новы этап у жыцці?**

– Працаваць пайшоў у Маладзечна на "Спадарожнік": 22-і цэх, потым 13-ы цэх. Вялікі спорт неяк закінуў, але праз пэўны час адчуў, што трэба нечым займацца. Вырашыў, што самае падыходзячае — гэта бег. Так у 1985-м годзе арганізаваў клуб аматараў бегу (КАБ). Свой першы марафон прабег у Брэсце за 3:36, праўда, у складаных умовах надвор'я. Думаў, ён стане і апошнім, але так склалася, што ў лістападзе перад 50-годдзем выступіў ужо ў сваім 50-м марафоне (Маларыта, час 3:16).

**– Які найлепшы час у марафоне?**

– Здаецца, у 1989-м было 2:40. Бегаў 10 км, 20 км, паўмарафон, звышмарафонскае кальцо вакол Мінска. З улікам марафонаў усяго больш за паўтары сотні стартаў. Выступаў у


Загадчык Маладзечанскага раённага аддзела па фізічнай культуры, спорце і турызме Аляксандр Кавалёў.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

Расіі, Латвіі, Польшчы, Украіне, Венгрыі. Нейкіх звышнагрузак, а тым больш траўмаў, няма. Да спорту трэба падыходзіць з розумам, не насілаваць сябе. Зараз у КАБе каля сарака чалавек. Называецца ён "Рэгіён", які аб'ядноўвае, як і ваша газета, некалькі раёнаў. На жаль, людзей ва ўзросце больш, чым моладзі. Трэніруемся на гарадскім стадыёне кожны дзень з 17-00 да 20-00, у нядзелю — з 11-00, адзін раз на тыдзень – выходны. За даведкамі можна звярнуцца да мяне па рабочым тэлефоне 7-07-22 альбо дадому 4-11-12.

**– Для якіх хваробаў бег з'яўляецца прафілактыкай?**

– Рашаюцца праблемы з лішняй вагой, з задышкай. Дапамагае пры радыкулітах. Аднак галоўнае – здаровы лад жыцця. Навічкі ў нас асвойваюць хадзьбу, абавязкова наведваюць урача ў дыспансеры спартыўнай медыцыны.

**– Мы раней расказвалі пра перамогі Вашай сям'і.**

– Ад першых шлюбаў у мяне тры дачкі. **Вікторыя** – старэйшая — працуе бухгалтарам у раённай ДЮСШ. Яшчэ **Жэня** і **Віта**. Яны вучацца ў 11-ым і 8-ым класах СШ№7. Пра жонку **Галіну** вы ўжо пісалі, якая пачынала сваё занятні з нуля, калі прыйшла ў наш КАБ. Цяпер з'яўляецца чэмпіёнам краіны 2002 года па марафоне, кандыдат у майстры спорту. Чацвёртая дачка **Насця** самая спартыўная, займаецца плаваннем у сталічным рэспубліканскім вучылішчы алімпійскага рэзерву. Выканала нарматыў кандыдата ў майстры спорту, будзе паступаць у акадэмію фізкультуры. З усімі нашымі дочкамі ўдзельнічалі ў сямейным мнагаборстве "Здароўе". Гэта летам бег 60 м, крос 2 км, плаванне, кіданне гранаты, стральба, а зімою бег на лыжах 5 ці 10 км, стральба і падцягванне на перакладзіне.

Былі прызёрамі і пераможцамі многіх абласных і рэспубліканскіх першынстваў як асобна сваёй сям'ёй, так і ў камандзе з іншымі сем'ямі. Запомніліся міжнародныя спаборніцтвы рабочай спартакіяды краін СНД, на якіх са мной і Галінай выступала Насця. У 2000 годзе ў Маскве былі адзінымі пасланцамі з усёй Беларусі. Там сярод 50-ці сем'яў былі ў плаванні трэцімі.

Заканчэнне будзе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ КОНКУРС

**Міраіда Сярпейка перамагла ў другім туры нашага конкурсу.**

Ніхто з 4-х прэтэндэнтаў не змог правільна прадказаць хаця б адзін з лікаў матчаў у Мадрыдзе 3:1 і Дортмундзе 3:0. Толькі Міраіда Сярпейка правільна спрагназавала абодва зыходы. Яна стала ўладальніцай фірменнага шаліка ФК "Маладзечна-2000".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АРМРЭСТЛІНГ

**МАЛАДЗЕЧНА. У Беразінскім прайшоў адкрыты чэмпіянат Маладзечанскага раёна.**

Сабралася 27 мужчын і 7 жанчын. Было па пяць вагавых катэгорый плюс абсалютная. У ёй, як і ў сваіх катэгорыях, перамаглі **Галіна Шафаловіч** з Беразінскага і **Сяргей Зафірыда** з Чысці.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

**14-16 сакавіка. Маладзечна, зала ЗМК.**

Фінальны турнір чэмпіянату вобласці па міні-футболе. Пачатак у пятніцу з 14-00, у суботу і нядзелю з 10-00.

